


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

ТУ плюс

8 лютага 2002 года
№ 6 (355)
Выходзіць па пятніцах

## Навіны рэгіёна

### Прыпынак «Зеніт»

**ВІЛЕЙКА.** 1 лютага рабочая камісія прыняла ў эксплуатацыю чыгуначны прыпынак "Зеніт". Яго будаўніцтва вялося амаль год і павінна было скончыцца ў II квартале 2002 года. Але будаўнікі ПМК-185 выканалі работы датэрмінова.
На станцыі ёсць павільёны для чакання, пляцоўкі з асвятленнем і білетныя касы. Цяпер жыхары самага шматнаселенага раёна Вілейкі будуць дабірацца да вакзала без праблем.

**Марыя МІКАЛАЕВА.**

### Сем Протасаў – і не трэба калгасаў

**МЯДЗЕЛ.** На 640 мільёнаў рублёў летась у раёне здалі малака людзі. Другі год запар усіх абганяе пенсіянер **Казімір Протас** з вёскі Мілты. Ад сваіх чатырох кароў ён прадаў за год звыш за трынаццаць тон малака. А ўся падсобная гаспадарка «Дзягілі», дзе ён жыве – 97.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Блакітны агеньчык у Ашмянах

**АШМЯНЫ.** Некалькі дзён таму кацельня Ашмянскага сыраробнага завода пачала працаваць на прыродным паліве. Гэта дазволіць зменшыць сабекошт прадукцыі. Ветку газаправода пабудавалі за кошт сродкаў Гродзенскага камітэта аховы рэсурсаў і навакольнага асяроддзя. У студзені блакітны агеньчык загарэўся ў кацельні ААТ "Белкава". У гэтым годзе плануецца перавесці на газ кацельні хлебазавода і пасёлка для перасяленцаў зоны Чарнобыльскай АЭС у Жупранах.

**Марыя МІКАЛАЕВА.**

### Плаціце і лавіце

**СМАРГОНЬ.** Рыбалка на Вішнеўскім возеры стала платная. Аматараў рыбнай лоўлі, якія прыходзяць без квіткоў, інспектары Мядзельскага лясніцтва штрафуюць на 10 тысяч рублёў. Між тым, шыльдаў аб платнай рыбалцы нябачна. Каб пазбегнуць штрафу, трэба купіць у лясніцтве квіток за 2,5 тысячы рублёў. І сядзі без перашкод ля лункі цэлыя суткі.
Але да вёскі, дзе знаходзіцца лясніцтва, дарога існуе толькі тэарэтычна. Яшчэ ніхто са смаргонскіх не адважыўся туды дабрацца. І толькі тутэйшым вяскоўцам адпачынак на возеры нічога не каштуе. Трэба толькі даведку з сельсавета мець пры сабе і вуду.

**Таццяна СКАРЫНКІНА.**

### Лепшая аптэка

**МЯДЗЕЛ.** Аптэка з Купы прызнаная лепшай у вобласці сярод вясковых аптэк.
Загадчыца **Іна Гараніна** гаворыць, што некаторыя адпачываючыя як заходзяць, то здзіўляюцца: «У вас асартымент не горшы, чым у Мінску». А падарункам за першае месца стаў камп'ютэр.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Нешчаслівы сельсавет

**ВІЛЕЙКА.** У ноч з 1 на 2 лютага загарэўся хлеў у Малявічах, што ў Хаценчыцкім сельсавеце.
У агні загінулі конь, карова, свіння. Згарэла каля 10 тон сена. Папярэдняя прычына пажару – падпальванне. Міліцыя вядзе следства.
Сёлета ў Хаценчыцкім сельсавеце адбылося 3 пажары. Гэта палова ад агульнай колькасці ўзгаранняў па раёне. Ды і летась гэты сельскі савет па колькасці пажараў заняў другое месца ў раёне.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Надвор'е на выхадныя

Субота, 9 лютага

Мінск

-1 – -2°С (уначы)
2 – 4°С (удзень)

Вільня

0°С (уначы)
5°С (удзень)

Нядзеля, 10 лютага

Мінск

0 – -1°С (уначы)
1 – 5°С (удзень)

Вільня

0°С (уначы)
4°С (удзень)

# Ваша школа замініраваная

**Гэтыя словы сказаў раніцай 1 лютага невядомы мужчына, які патэлефанаваў у маладзечанскую СШ №7.**

МАЛАДЗЕЧНА. Званок быў у 7-50. Трубку падняла намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце Тамара Сіманенка. І адразу пазваніла па "02".

Ёй слова.

– Званіў ці то дарослы мужчына, ці то старшакласнік. Сувязь была няякасная. Таму мяркую, што, хутчэй за ўсё, званілі з тэлефона-аўтамата. Праз 2-3 хвіліны прыехалі работнікі міліцыі і пажарныя, "хуткая дапамога". Школьнікі былі ўжо ў класах, але заняткі яшчэ не пачаліся. Дзецям сказалі апрануцца і пакінуць школу па прычыне тэхнічнай няспраўнасці сістэмы ацяплення. Гэта мы так сказалі, каб не ўзнімаць паніку. Адкрылі дадатковы выхад, і ўсе арганізавана выйшлі. Пасля работнікі міліцыі ачапілі вуліцу і пачалі праверку будынка школы. Дзесьці а палове дзесятай прыехалі мінскія спецназаўцы, якія спецыялізуюцца на падобных здарэннях. Праз гадзіну завяршылася праверка будынка. Нічога падазронага не знайшлі. Каля 11 гадзін усе раз'ехаліся.

Заканчэнне на 2-й стар.



Фота Ольгі КАРПІЦКАЙ

**Вучні маладзечанскай СШ №7 атрымалі 1 лютага незапланаваныя канікулы. Але Дзмітрыю Багуцкаму (з 9 "Б" класа), Яўгену Гапонаву (8 "В"), Міхаілу Казьміных (9 "В"), Уладзіміру Кісліцкаму (9 "Б") (у верхнім радзе злева направа), Паўлу Канановічу (8 "В"), Юрыю Мішыну (9 "Б"), Канстанціну Мазуру (8 "Г") і Аляксандру Белкіну (9 "Г") (у ніжнім радзе злева направа) і іх таварышам давядзецца адпрацоўваць прапушчаны дзень у адну з наступных нядзель.**

**Экспрэс-апытанне маладзечанцаў**

# Сёння пачынаюцца зімовыя алімпійскія гульні. Будзеце сачыць за алімпіядай?



**Сям'я Шулякоў (злева направа) – Яўгенія, Уладзімір і Наталля.**
Наталля: – Не ведаю, напэўна, будзем. Увогуле, мы сочым за спортам, але не хвараем за канкрэтнага спартсмена ці каманду.
Уладзімір: – Заўтра (гаварылі 5 лютага) я еду на працу ў Брэст. Там, дзе я буду жыць, няма тэлевізара, і з-за гэтага цяжка будзе сачыць за Алімпійскімі гульнямі.



**Васіль Стрыхар, майстар:**
– Так. Спадзяюся на фрыстайл, біятланістаў і, магчыма, канькабежцаў. Мяркую, тры ўзнагароды – гэта будзе нармальна.



**Васіль Юрко, рабочы:**
– А як жа! Спадзяюся на золата па фрыстайле і асабіста на **Алу Цупер**. Павінны ня дрэнна выступіць біятланісты, магчыма, трапяць у дзесятку.



**Валерый Вятроў, трэнер па футболе:**
– Безумоўна. Медалі, напэўна, атрымаюць біятланісты. Хаця спорт – такая рэч, што прагнозу не зробіш.



**Іна Гамолка, прадавец:**
– Безумоўна! Хто перамажа, не ведаю. Магчыма, будзе 3 сярэбраныя медалі ў гімнастыцы.

**Фотаапытанне падрыхтавалі Мікалай ХАДАСЕВІЧ і Вольга ПІЛІПЕНКА.**

# Людзі, машыны, дарогі – танга ўтраіх

**МАЛАДЗЕЧНА. Калі праязджаеш міма паста ДАІ, замірае сэрца. Гэтыя патрульныя машыны выклікаюць рой думак: хуткасць не перавысіў? аптэчка на мечцы? дакументы не забыўся? спіртное выветрылася? І для большасці з нас інспектар – гэта нейкі карнік, які знойдзе да чаго прычапіцца.**

Але ж, згадзіцеся, дзякуючы іх працы, рэгулюецца дарожны рух, і мы пазбягаем шмат экстрэмальных сітуацый.



**Таксама здарэнне.**

Фота IREX/ProMedia.

Пра тое, як складваліся стасункі паміж ДАІ, вадзіцелямі і пешаходамі, расказвае начальнік ДАІ Маладзечанскага ГРАУС **Уладзімір Балкоўскі**.

**- Чым "парадаваў" мінулы год?**

- Асаблівай радасці няма. На дарогах горада і раёна адбылося 799 дарожна-транспартных здарэнняў (ДТЗ). У 109 ёсць пацярпелыя, 17 чалавек загінулі, 113 атрымалі раненні.

**- Хто ж ініцыятар ДТЗ – вадзіцелі ці пешаходы?**

- У большасці выпадкаў – пешаходы. З іх удзелам было 58 здарэнняў. У 37 - яны вінаватыя самі. Дарэчы, з тых, што загінулі, 13 чалавек – пешаходы. Як і раней, людзі пераходзяць праезныя часткі ў неўстаноўленых месцах, ідуць па трасе ў цёмны час. Аматары выпіць яшчэ і адпачываюць на дарогах. Такіх за снежань 2001 - студзень 2002 года было 4 чалавекі, 3 з іх загінулі.

**- З нецвярозымі за рулём, як і раней, праблемы?**

- Так. Год ад году колькасць такіх вадзіцеляў павялічваецца. За 2001 год работнікамі ДАІ выяўлена 918 парушальнікаў. Восем ДТЗ адбыліся па іх віне. Нават узмацненне штрафаў не змяніць становішча.

**- Чула пра новую акцыю ДАІ "Стоп-мэны", калі вучні рэгулююць рух. Як справы з дзецьмі?**

- Дзіцячы траўматызм вялікі. У 2001 годзе адбылося 21 ДТЗ з іх удзелам. Большасць не ведаюць элементарных правілаў дарожнага руху. Хаця работнікі ДАІ правядзілі 1298 выступленняў сярод вучняў, вадзіцеляў і насельніцтва. Але ж да дзяцей патрэбны падыход - гэта значыць, і ДАІ, і школ, і бацькоў.

**- Як ацэньваеце тэхнічны стан дарог?**

- Вулічная дарожная сетка не адпавядае колькасці транспарту і знаходзіцца на ўзроўні 70-х гадоў. І гэта нягледзячы на тое, што сёння на 1000 жыхароў прыходзіцца 125 аўтамабіляў. У мінулым годзе дарожным службам выдадзена 66 прадпісанняў. За неўхіленне недахопаў 21 работнік аштрафаваны. Штомесяц мы рыхтуем у гарвыканком прапановы па паляпшэнні вулічна-дарожнай сеткі, тэхнічных сродкаў (дарожныя знакі, пешаходныя абмежаванні, разметкі).

**- Цяпер пра прыемнае. Віншую з сярэбраным медалём за работу ў 2001 годзе!**

- Дзякую. Так, па выніках працы наша аддзяленне ДАІ заняло 2-е месца па Мінскай вобласці (у 2000 было 3-е месца – аўт.). Лепшымі ў вобласці прызнаныя: старшы інспектар па арганізацыі дарожнага руху Уладзімір Шыла і інспектары Валерый Глінскі і Вячаслаў Макарэвіч.

**- Чым будзеце займацца ў гэтым годзе?**

- Прафілактыкай ДТЗ: агітацыя сярод насельніцтва праз рады. І газеты. Будзем працягваць працу з юнымі інспектарамі руху і стоп-мэнамі. Установім "Вокны ДАІ" у шматлюдных месцах. Будзем кантраляваць стан вулічна-дарожных сетак. Вызначым найбольш аварыйныя ўчасткі і ўладкуем там пасты, каб рэгуляваць рух. Наогул, зробім усё, каб людзі, машыны і дарогі прыносілі адно аднаму менш праблем.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ **СТАТЫСТЫКА ЗА 2001 ГОД**

## За што траплялі ў ДАІ

| | |
|---|---|
| Кіраванне няспраўным і незарэгістраваным транспартам | 7369 (-2951) |
| Перавышэнне хуткасці | 3875 (-2401) |
| Кіраванне без вадзіцельскага пасведчання | 314 (+30) |
| Парушэнне пешаходамі правілаў дарожнага руху | 5291 (-533) |
| Ваджэнне ў нецвярозым стане | 918 (+1) |

У дужках адлюстраваныя змяненні ў параўнанні з 2000 годам

■ **ТЭАТР**

## «Умеюць смяяцца людзі!»

**МАЛАДЗЕЧНА. 29 студзеня ў Мінскім абласным драматычным тэатры адбылася прэм'ера спектакля "Хочаш вер – хочаш не вер". Яго аўтарам, рэжысёрам-пастаноўшчыкам з'яўляецца дырэктар Мінскага тэатра юнага гледача Юрый Вута.**

Спектакль рыхтаваўся да 60-годдзя **Барыса Доніна**. Трэба адзначыць, што акцёр сам выбіраў спектакль, дзе і выканаў галоўную ролю **Пашкі Пакабацькі**. Як зазначыў аўтар спектакля, усе артысты адпрацавалі выдатна. У спектаклі, акрамя галоўнага героя, удзельнічалі шэсць жанчын.

– І няхай хоць хто-небудзь паспрабуе сказаць, што атрымалася дрэнна – паб'юць, - смяяўся Юрый Вута.

Афіцыйна прэм'ера спектакля з усімі дапрацоўкамі і выпраўленнямі прайшла 2 лютага. А 29 студзеня праходзіла здача пастаноўкі мастацкаму савету. Але ўпершыню за 10 год працы тэатра гэта паспрабавалі аб'ядналі з удзелам аўдыторыі.

Мастак-пастаноўшчык Сяргей Антонаў упэўнены, што яму ўдалося разам з Юрыем Вутам ажыццявіць задуманае.

– Гэта вялікая ўдача, калі рэжысёрская і сцэнаграфічная задумкі аб'ядноўваюцца ў адным спектаклі і становяцца практычна непадзельныя.

Ён вызначыў жанр пастаноўкі як эксцэнтрычная камедыя з элементамі лубка (фальклору).

Асаблівасцямі "Хочаш вер – хочаш не вер" з'ўляецца тое, што гэта два спектаклі ў адным. Вызначаецца пастаноўка і дынамічнасцю дэкарацый, якія прадстаўлены ў выглядзе каруселі (гэта адначасова дом, лазня, вуліца і клуб). Мастак зазначыў, што сцэнаграфія не выконвае службовую функцыю, а з'яўляецца восьмай дзеючай асобай спектакля.

Адным словам, лепш аднойчы пабачыць, чым сто разоў пачуць.

**Таццяна СЕМАШКЕВІЧ.**

## Ваша школа замініраваная

**Пачатак на 1-й стар.**

Ля школы стаяла група падлеткаў і абмяркоўвала нядаўнія падзеі. Хлопцаў агтяняла ад школы адна з настаўніц.

– Ідзіце дадому! Калі трэба ісці ў школу, то сілком не загоніш, а цяпер адагнаць цяжка.

Школьнікі сфатаграфаваліся на памяць, а потым падзяліліся сваімі ўражаннямі. Яны, безумоўна, радаваліся нечаканым канікулам, але пры размове рабілі сумны выгляд.

**Косця Мазура** з 8 "Г" класа сказаў, што напярэдадні прачытаў рускую літаратуру і хацеў "чацвёрку". І пайшло-паехала. Дзевяцікласнік **Міша Казьміных** вывучыў гісторыю, яго сябар **Саша Белкін** – "Мой свет". Абодва хацелі "5". А **Жэня Гапонаў** і **Паша Канановіч** сказалі, што вывучылі ўсе ўрокі. І на развітанне дадалі:

– Вы не пішыце, што мы радыя, што сёння адмянілі ўрокі. Наадварот, скажыце, што сумуем.

Усёй кампаніі будзе яшчэ магчымасць паказаць свае веды. Прапушчаныя ўрокі правядуць у адну з наступных нядзель.

Начальнік інспекцыі па справах непаўналетніх Маладзечанскага ГРАУС **Барыс Сіняўскі** быў настроены не так аптымістычна:

– Па гэтым факце ўзбуджаная крымінальная справа па артыкуле 339 частка 3 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. За падобны ўчынак прадугледжана адказнасць ад трох да пяці год пазбаўлення волі.

Матыў я бачу толькі адзін – свавольства. Некаторыя падлеткі не разумеюць сур'ёзнасці такога ўчынку. Ім здаецца, што гэта жартачкі. Слаба веру ў тое, што тэлефанаваў вучань гэтай школы. У злачынстве ўдзельнічалі некалькі чалавек, і тут мы маем надзею, што нехта "праколецца". А Маладзечна – горад адносна невялікі, і абсалютная большасць падлеткавых злачынстваў тут раскрываецца. Іншая справа, што адныя па гарачых слядах, а іншыя – з цягам часу.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Протаіерэй ў вайсковай часці

**СМАРГОНЬ. 29 студзеня вайсковую часць 2044 наведаў начальнік аддзела па сувязях з Узброенымі Сіламі протаіерэй айцец Сергій.**

Ён ужо пабываў у памежных атрадах Паставаў, Полацка, а таксама наведаў Смаргонскі вучэбны пагранічны атрад (в/ч 1259).

Мэта візіту, па словах самога протаіерэя: "Убачыць і адчуць жыццё і праблемы арміі ў духоўным плане, тым больш, што я сам быў пагранічнік".

Айцец Сергій звярнуўся з прамовай да салдат як да воінаў, не падзяляючы іх на каталікоў, праваслаўных і мусульман, вызначыўшы сваю місію як асвету і блаславенне. Вайскоўцы мелі магчымасць пагаварыць з госцем, яны задавалі шмат пытанняў. А напрыканцы сустрэчы айцец Сергій падарыў пагранічнаму атраду Біблію, праваслаўны каляндар і рэлігійныя кнігі. Пагранічнікі паказалі госцю вайсковую часць і гонар атрада – сабачы гадавальнік.

Далей айцец Сергій накіраваўся з такой самай місіяй у Ліду, Гродна, Брэст і Пінск.

**Ірына ЯСІНСКАЯ.**

## Слізка

**СМАРГОНЬ. З катаклізмамі прыроды змагацца немагчыма, гэта даказвае колькасць наведвальнікаў хірургічнага кабінета мясцовага шпіталя, пацярпелых ад галаледзіцы.**

За студзень было загіпсавана 112 канечнасцяў (часткар рук), 21 з іх – дзіцячыя, 75 чалавек атрымалі бальнічныя лісты. Часцей, за ўсё, траўміруюцца веласіпедысты, п'яніцы і старыя кабеты. Апошнія паводзяць сябе пры гэтым гераічна. Адна бабулька зламала нагу, дык 5 кіламетраў паўзла да шашы.

**Таццяна СКАРЫНКІНА.**

■ **ЯКОЕ БУДЗЕ ВАШАЕ ДЗІЦЯ**

# Зменімся разам

**МАЛАДЗЕЧНА. Мы адхіляемся ад ісціны, калі называем свой каляндарны ўзрост, таму што не ўлічваем, што нашае жыццё пачалося на 9 месяцаў раней. Сапраўдны яго пачатак – аплодненне, зачацце.**

Цяпер, па розных дадзеных, нараджаецца ад 2 да 10% здаровых дзяцей. Часта бацькі наракаюць на ўрачоў, што яны не могуць вылечыць іх любімае дзіця. Спасылаюцца на экалогію, узровень жыцця і ўсіх запар. Але што зрабілі гэтыя маці і бацька для свайго ўласнага здароўя і здароўя будучых пакаленняў?

Здароўе чалавека залежыць ад многіх прычын і вызначаецца яго спадчынным пачаткам (7-12%), навакольным асяроддзем (70%) і астатнімі перыядамі жыцця (18-23%). Адное толькі адказнае стаўленне да зачацця дзіцяці можа палепшыць яго здароўе ў будучым.

Продкі заклікалі зачынаць новага чалавека пасля посту, калі ўтаймуеш духоўныя загады. Клапаціліся пра маральны і фізічны стан, пра чысціню думак і сэрцаў бацькоў. Рымляне перад зачаццем павінны былі прайсці перыяд устрымання і ачышчальны рытуал. Выбіралі дзень, у які муж і жонка адасабляліся. На Русі традыцыйна вяселлі гулялі восенню. Лічылася, што ў пазддаравелых за лета маладых і патомства будзе больш здаровае. Да шлюбу высвятляліся радаслоўная і цяжкія хваробы жаніха і нявесты. У час вяселля маладым забараняалі ўжываць спіртное.

Гітлер гаварыў, што для таго, каб перамагчы Расію, не трэба з ёй ваяваць, трэба даць ёй гарэлку і курыва.

Вучоныя ўстанавілі, што нават кубак піва выклікае структурныя змяненні ў арганізме. Яно ўтрымлівае рэчывы, якія падобныя на жаночыя палавыя гармоны. Пры працяглым ужыванні адбываецца перараджэнне мозгу, печані і клетак палавых органаў чалавека. Разбураюцца зародкавыя клеткі і церпіць палавая патэнцыя.

Таму ў Старажытным Рыме забаранялі маладым людзям да 30 год піць спіртное.

Курэнне ж узмацняе ўздзеянне алкаголю і разбурае генетычны код. Патомства таго, хто курыць, як правіла, больш хваравітае і слабае, чым ён сам.

Вось якія парады даў маладым жанчынам пісьменнік Янка Крук: "Калі вы збіраецеся нарадзіць дзіця, за некалькі месяцаў да зачацця, а яшчэ лепш, за год пастаўце сябе ў рамкі звычайнага права і маралі. Аздаравіце сваё цела, ачысціце душу ад злосці і зайздрасці. Тады на свет з'явіцца прыгожы і здаровы чалавечак, які ўсё жыццё будзе прыносіць радасць".

Ёсць і іншы шлях: уласная разбэшчанасць, чалавечыя страсці і слабасці. У выніку народзіцца гаротнае дзіця, грэх перад якім не адмаліць да скону веку.

Права выбару за вамі, але ж памятайце: трэцяга не дадзена.

**Мая МАРОЗ,**
**акушэр-гінеколаг**
**Маладзечанскага раддома.**

## Пра школьны музей ведаюць і за мяжой

**МЯДЗЕЛ. Прыгожы будынак ёсць у вёсцы Нарач – месціцца там краязнаўчы музей мясцовай школы. Большая частка экспазіцыі прысвечана тэме «Чалавек і прырода».**

Можна паглядзець на чучалы розных жывёлаў, ёсць і вялікая калекцыя птушыных яек (перадалі з БДУ). Стваральніца музея, настаўніца біялогіі **Рэгіна Юркевіч** расказвае, што тут і экскурсіі праводзіцца, вывучаюць школьнікі розныя тэмы па біялогіі. Завітваюць у музей не толькі дзеці, але і дарослыя, асабліва ўлетку. Бываюць госці з Ізраіля, Польшчы, Германіі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



**Пяцікласніцы Каці Корабавай вельмі падабаецца ў музеі. Дапамагае яна і экскурсіі праводзіць**

Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Алюмініевая справа

**МЯДЗЕЛ.** У судзе Мядзельскага раёна разгледжаная справа васьмі маладых хлопцаў, якія кралі па вёсках і ў райцэнтры алюмініевыя рэчы.

Усяго на іх рахунку больш трыццаці выпадкаў. Звычайна выпраўляліся яны на машыне на дыскатэку ў якую вёску. Пагуляўшы, хадзілі па вёсцы, глядзелі, дзе што блага ляжыць. Бралі рукамыйнікі, тазікі, бітоны, сцягнулі нават сетку-рабіцу з плоту.

Доўгі час людзі ў міліцыю і не звярталіся, толькі дзівіліся: «Дваццаць год вісеў рукамыйнік. Каму ён спатрэбіўся?». Аказалася, хлопцы здавалі гэтыя рэчы двум скупшчыкам у Мядзеле. Грошай вялікіх не зараблялі: хапала на спіртное і бензін. Злодзеі раслі ў добрых сем'ях, амаль усе ўладкаваныя: хто працаваў, хто вучыўся (некаторыя і ў ВНУ). А алюмініем заняліся, пэўна таму, што пацягнула на прыгоды. За гэта прыгаварылі каго да года папраўчых работ, а хто атрымаў два гады пазбаўлення волі з умоўным непрымяненнем пакарання.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Прытоны

**СМАРГОНЬ. Тут афіцыйна зарэгістравана 10 кватэр, гаспадары якіх вядуць антыграмадскі лад жыцця.**

Прытоны, адным словам. Неафіцыйных злачынных хат яшчэ больш – 58. Каб паставіць іх на ўлік у міліцыі, патрэбныя заявы суседзяў. Але людзі баяцца, не дай Бог, адпомсцяць. Маўчаць і трываюць.

**Таццяна СКАРЫНКІНА.**

■ СПАЖЫВЕЦКІЯ КЛОПАТЫ

## Ветлівей трэба быць

Перад Новым годам на адну з прыватных аўтазаправак рэгіёна заехаў мужчына. Пасля таго, як заправіў аўтамабіль, убачыў аб'яву, што тут можна застрахаваць сваю машыну.

Спытаўся ў аператара наконт страхоўкі. Яна параіла прыехаць на наступны дзень. Спажывец згадзіўся. Прыехаў. На запраўцы адказалі:

– Прыязджайце заўтра раніцай.

– Дакладна?

– Дакладна.

Прыехаў а 9-й гадзіне. Страхавы агент на рабочым месцы быў, але адмовіўся застрахаваць аўтамабіль. Маўляў, сёння нядзеля.

Пакрыўджаны аўтааматар напісаў заяву ў Маладзечанскую арганізацыю абароны спажыўцоў з просьбай разабрацца ў сітуацыі. Дырэктар аўтазапраўкі сустрэўся са спажыўцом і прынес прабачэнні за дзеянні свайго работніка. Па гэтым факце быў сход калектыву запраўкі. Страхавы агент атрымаў вымову. Дырэктар запраўкі выказаў жаданне кампенсаваць маральны ўрон спажыўцу, але таму было дастаткова прабачэнняў.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ПЕНСІЯ

# Наступае пенсійная рэформа

Па звестках з афіцыйных урадавых структур, ужо напачатку вясны будзе прынятае і, хутчэй за ўсё, зацверджанае Саветам Рэспублікі і падпісанае прэзідэнтам новае пенсійнае заканадаўства. Яшчэ невядома, якое канчатковае напаўненне яно атрымае, аднак у цяперашнім яго праекце існуюць дзве істотныя змены: пенсійны ўзрост і выплата датэрміновых пенсій за шкодныя ўмовы працы за кошт прадпрыемстваў.

Па словах намесніка міністра эканомікі Андрэя Тура, пенсійная рэформа разлічаная на працяглы час. Мяркуецца штогадовае даданне пенсійнага ўзросту на 3-6 месяцаў без абмежавання тэрміну выхаду на пенсію. Гэта азначае, што цяперашнім 20-30-гадовым грамадзянам краіны давядзецца стаць пенсіянерам не раней 65-67 гадоў. Існуюць і вялікія праблемы з датэрміновым выхадам на пенсію катэгорый работнікаў, звязаных з працай у шкодных умовах.

З гэтай нагоды вынікае некалькі актуальных пытанняў.

Ці будуць плаціць Расія, Украіна, і іншыя краіны СНД нашым грамадзянам, якія адпрацавалі там належны тэрмін для атрымання льготнай пенсіі, у тым ліку, металургам і шахцёрам?




Да «дастойнай» пенсіі можна дастаяцца?

Фота IREX/Pro Media.

Ці ў стане ўсе нашыя прамысловыя прадпрыемствы, не кажучы пра сельскую гаспадарку, узяць на свае плечы гэтыя фінансавыя пенсійныя выдаткі?

Пра ўсё гэта мы з вамі даведаемся вельмі хутка, вясна ўжо не за гарамі.

**Алесь ЦАДКО.**

■ СПРАВЫ СУДОВЫЯ

# Адсудзіў права на зарплату

**Астравецкі суд абавязаў улады своечасова выплачваць зарплату настаўніку Мікалаю Уласевічу**

АСТРАВЕЦ. 27 лістапада 2001 года настаўнік Гозскай базавай школы Мікалай Уласевіч падаў у раённы суд іскавую заяву аб прымушэнні Астравецкага раённага аддзела адукацыі і Астравецкага райвыканкома да выплаты заработнай платы. З верасня па лістапад 2001 года ў раёне допускаліся затрымкі з выплатай заработнай платы настаўнікам.

У іскавай заяве ісцец запатрабаваў адмены распараджэння Астравецкага райвыканкома №102-р ад 11 красавіка 2001 года "Аб змяненні тэрмінаў атрымання заработнай платы бюджэтным установам раёна" і прасіў прымусіць адказчыкаў да выканання патрабаванняў Працоўнага кодэкса Рэспублікі Беларусь, своечасовай, рэгулярнай і двухразовай выплаты зарплаты і пакрыць няўстойку за затрымку на працягу апошніх трох год.

Першае пасяджэнне павінна было адбыцца ў снежні 2001 года, але не адбылося па прычыне таго, што загадчык раённага аддзела адукацыі **Уладзімір Булавіцкі** пайшоў у адпачынак.

Чарговае пасяджэнне было прызначана на 21 студзеня. На яго былі запрошаныя прадстаўніком Астравецкага райвыканкома юрыст **Таццяна Валейка**, намеснік загадчыка Астравецкага раённага аддзела адукацыі **Пётр Спагар** і старшыня райкома прафсаюзаў работнікаў народнай адукацыі **Ларыса Ярмоліч**. Загадчык раённага аддзела адукацыі У. Булавіцкі паехаў у камандзіроўку ў Мінск. Але на гэтае пасяджэнне не з'явіўся ісцец, таму што, па яго словах, ён не атрымаў павесткі. Судовае пасяджэнне перанеслі на 29 студзеня. Суддзя **Генадзь Янкоўскі** вынес пастанову аб накладанні штрафу ў суме 20 тысяч рублёў на настаўніка Гозскай базавай школы Астравецкага раёна Мікалая Уласевіча за тое, што ён не з'явіўся на судовае пасяджэнне без важкай прычыны. Акрамя гэтага, суддзя вынес пастанову аб прыводзе работнікамі міліцыі М. Уласевіча на судовае пасяджэнне да 10 гадзін 29 студзеня 2002 года.

Мікалай Уласевіч з'явіўся ў суд, а ўсе адказчыкі адсутнічалі, таму што знаходзіліся на пасяджэнні выканкома. Разгляд справы ў чарговы раз быў перанесены на 30 студзеня.

А 15 студзеня ісцец накіраваў заяву ў адміністрацыю прэзідэнта, Гродзенскага выканкома і абласную пракуратуру з просьбай правесці праверку і ўстанавіць прычыны затрымкі выплаты заработнай платы настаўнікам раёна. Неадкладна ў раёне аказалася група асоб Гродзенскага аблвыканкома. Адразу ж уся зарплата бюджэтнікам раёна была выплачаная на працягу двух дзён.

30 студзеня адбылося судовае пасяджэнне па іскавай заяве ісца Мікалая Уласевіча з удзелам усіх адказчыкаў. 31 студзеня суддзя вынес рашэнне і абавязаў Астравецкі раённы аддзел адукацыі выплачваць ісцу зарплату 16 чысла кожнага месяца і аванс 26 чысла гэтага ж месяца. У выпадку нявыплаты ва ўстаноўленыя тэрміны адказчык у асобе загадчыка Астравецкага раённага аддзела адукацыі будзе прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу ў памеры 10 мінімальных заробатных плат.

Распараджэнне Астравецкага райвыканкома №102-р ад 11 красавіка 2001 года суд пакінуў без змяненняў, у тым ліку, і адмовіў ісцу ў кампенсацыі няўстойкі за затрымку зарплаты на працягу апошніх трох год.

Прадстаўнік рэспубліканскага грамадскага аб'яднання "Беларускі Хельсінкскі камітэт" па Астравецкім раёне **Іван Крук** лічыць, што Мікалай Уласевіч падняў у судзе праблемныя пытанні, справабаў адстаяць і абараніць інтарэсы ўсіх настаўнікаў раёна. Аднак суд прыняў да вытворчасці заяву М. Уласевіча як ад прыватнай асобы, а не ад калектыву настаўнікаў. Здарэнне паказвае, што ў дадзенай сітуацыі настаўнікі засталіся ўбаку ад ад рашэння існуючых праблем і не падтрымалі свайго калегу ў яго барацьбе за правы настаўнікаў у раёне.

– Хацелася б бачыць настаўніцкія калектывы больш згуртаванымі, каб яны змагаліся за свае законныя правы не толькі ў судах, але і на прафсаюзным узроўні, – дадаў Іван Крук.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## Курсы валют НБ РБ

| | 31 студзеня | 7 лютага |
|---|---|---|
| Долар | 1638,00 руб. | **1650,00** руб. |
| Літ | 409,55 руб. | **413,94** руб. |
| Расійскі рубель | 53,38 руб. | **53,69** руб. |
| Злоты | 395,89 руб. | **392,30** руб. |
| ЕЎРА | 1417,61 руб. | **1429,64** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1660 – 1680 руб. | **1660 – 1680** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 30.01 | 6.02 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2600 | **2600** |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 9500 | **9500** |
| Сасіскі, 1 кг | 3950 | **3950** |
| Селядзец, 1 кг | 2200 | **2200** |
| Рыс, 1 кг | 580 | **650** |
| Грэчка, 1 кг | 480 | **500** |
| Цукар, 1 кг | 730 | **730** |
| Алей, 1 л | 1480 | **1550** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1200 | **1200** |
| Маянэз, 200 г | 320 | **320** |
| Кава "Пеле", 100 г | 1800 | **1800** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 580 | **600** |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 550 | **600** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 600 | **600** |
| Капуста, 1 кг | 600 | **550** |
| Лімоны, 1 кг | 1900 | **1700** |
| Апельсіны, 1 кг | 1600 | **1500** |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1400 | **1400** |
| Масла, 1 кг | 3000 | **3000** |
| Тварог, 1 кг | 1500 | **1500** |
| Малако, 1,5 л | 500 | **600** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1400 | **1500** |
| Бульба, 1 вядро | 2600 | **2500** |
| Морква, 1 кг | 500 | **500** |
| Яблыкі, 1 кг | 650 | **550** |

■ ЭКАНОМІКА

## «Двойка» прадпрыемствам

**МАЛАДЗЕЧНА. Гарвыканком вызначыў прагнозныя параметры сацыяльна-эканамічнага развіцця горада.**

Але спачатку разгледзелі леташнюю работу прадпрыемстваў. 10 з іх па выніках леташняй работы атрымалі ад гарвыканкома "нездавальняюча". 22 арганізацыі горада не забяспечылі сярэднямесячную 100-доларавую зарплату сваім работнікам.

Па прагнозе, да канца года аб'ём прамысловай прадукцыі і тавараабарот павінныя вырасці на 12,5%, вытворчасць спажывецкіх тавараў – на 12%, экспарт – на 10%. Аб'ём жыллёвага будаўніцтва – 24-28 тысяч квадратных метраў.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ФІНАНСЫ

## Прыняты гарадскі бюджэт

**МАЛАДЗЕЧНА. 30 студзеня дэпутаты зацвердзілі гарадскі бюджэт на 2002 год. Даходная і расходная часткі зацверджаныя ў памеры 20,42 мільярда рублёў. Датацыя абласнога бюджэту складзе 76,2 мільёна рублёў.**

Даходная частка леташняга бюджэту выкананая на 100,1%, расходная – на 99,9%. Гэта дазволіла цалкам выплаціць заработную плату бюджэтнікам. Запазычанасць у гарадскі бюджэт склала на 1 студзеня каля 160 мільёнаў рублёў, а бюджэтныя ўстановы вінаватыя больш за 2,2 мільярда. У асноўным, гэта плацяжы за камунальныя паслугі. Сёлетні бюджэт мае сацыяльны напрамак – на гэтую сферу пойдзе звыш трох чвэрцяў выдаткаў. Асноўнай крыніцай даходаў стануць падаходныя падаткі, падатак на дабаўленную вартасць, адзіны падатак з прадпрымальнікаў.

### Асноўныя артыкулы расходаў гарадскога бюджэту на 2002 год, тыс. руб.

| | |
|---|---|
| Дзяржаўнае кіраванне і мясцовае самакіраванне | 325704,0 |
| Навука | 41083,3 |
| Прамысловасць, энергетыка і будаўнічы комплекс | 385000,0 |
| Сельская гаспадарка | 39450,0 |
| Транспарт, дарожная гаспадарка і сувязь | 415000,0 |
| Жыллёва-камунальная гаспадарка | 2747992,1 |
| Адукацыя | 8335603,6 |
| Культура і мастацтва, кінематаграфія | 200771,0 |
| Сродкі масавай інфармацыі | 4000,0 |
| Ахова здароўя і фізічная культура | 7377175,0 |
| Сацыяльная палітыка | 154028,8 |
| Іншыя выдаткі | 213902,2 |
| Фонд аховы прыроды | 185000,0 |
| Усяго выдаткаў | 20424800,0 |

**Юрый КАРПІЦКІ.**

# Светлагорск: наркаманам быць не модна

**Група журналістаў недзяржаўных рэгіянальных выданняў пабывала ў камандзіроўцы ў беларускай сталіцы СНІДу. У Светлагорску на ўліку стаяць 1167 наркаманаў. У горадзе зарэгістраваны 1651 ВІЧ-інфіцыраваны (гэта 52,5 % ад усіх выяўленых у Беларусі). Узровень інфіцыраванасці насельніцтва ў 66 разоў большы, чым па краіне. Тром гараджанам ужо выстаўлены дыягназ – СНІД.**

За што ён так правініўся, гэты Светлагорск, што стаў беларускай сталіцай наркаманіі і СНІДу? Малады горад – саракагоддзе нядаўна адзначыў. Нягледзячы на 75 тысяч насельніцтва, вельмі кампактны – як пятачок. Горад як горад: наркотыкі на вуліцы ніхто не прапануе, ды і каб шэрагі абколатых сноўдаліся, нешта не бачна. Праўда, бянтэжыць тое, што гараджанін, якога сустрэнеш на вуліцы, можа распавесці, дзе ў якой кватэры ў яго доме колюцца, а кіроўца пачынае дзяліцца падрабязнасцамі, хто з яго сваякоў на іголцы.



У рэабілітацыйным цэнтры.

Фота Віталя ГІЛЯ, «Газета Слонімская».




Фота Віталя ГІЛЯ, «Газета Слонімская».

Так сустракае сваіх гасцей светлагорская гасцініца «Бярэзіна».




Фота Віталя ГІЛЯ, «Газета Слонімская».

«Абменнікі». Так называюць пункты па абмене шпрыцаў.

## Наркаманія

Яна прыйшла ў горад у сярэдзіне 80-х. Першыя, хто сеў на іголку, вучыліся ў Ленінградскім медінстытуце, яны і прывезлі адтуль у горад працэс вырабу опію з макавай саломкі. Быць наркаманам стала модным, ім зайздросцілі – і далучаліся.

***

У Светлагорску лічаць, што паспрыяла ўцягненню моладзі ў наркаманію... Поўнач. Многія лёталі туды на заработкі. Адзін жыхар пачаў узгадваць – з яго дома 10 сем'яў з 36 так на жыццё зараблялі. Дзеці адныя ў пустой кватэры, ды і грошай сваім нашчадкам бацькі не шкадавалі – рабі што хочаш. А паколькі найцікавейшай забавай стала наркаманія, то колькасць аматараў «зелля» пачала расці, прычым хутка.

***

Групе журналістаў пра сітуацыю ў горадзе расказвае **Васіль Шух**, начальнік аддзела нораваў і барацьбы з незаконным абаротам наркотыкаў мясцовага РАУС. Займаецца гэтай справай з самага пачатку: кожнага наркамана ведае (і яны яго). Статыстыка такая: на ўліку значыцца 1167 наркаманаў, тры чвэрці з іх – узростам ад 20 да 30 год. Да 20 год – 5%.

***

Просім яго апісаць, як выглядаюць наркаманы.

– Вы калі ў вёсцы курыцу кульгавую бачылі? Вось так і наркаманы: ледзьве ногі цягнуць, накульгваюць (гэта ад таго, што колюцца ў пахвіну). Зямлістага колеру твар, адсутны позірк. Іх ужо нічога не цікавіць, толькі б укалоцца. Можа, напачатку яны і кайф атрымлівалі ад гэтага, а цяпер ужо не – проста арганізм патрабуе дозу. Думалі, што паколюцца крыху, надакучыць – і кінуць. Не атрымліваецца так.

***

З цяжкасцю ў горадзе могуць прыпомніць выпадкі, калі наркаманы «злазілі» з іголкі. Хто можа і год, і некалькі не калоцца, а потым не вытрымлівае.

– Аднаго дня сустракае мяне наркаман – Іван Іваныч: «Усё, я «завязаў», цяпер во толькі выпіваю з сябрамі», – прыводзіць прыклад Васіль Шух. – Малайчына, гавару, хоць так трымайся. Доўга, праўда, ён працягнуў без наркотыкаў, але потым – зноўку за сваё.

***

Опій застаецца самым папулярным наркотыкам у Светлагорску: усялякія навінкі, накшталт гераіну, тут не прымаюць. У міліцыі гавораць, што асноўныя пастаўшчыкі макавай саломкі ў горад – цыганы. Вязуць яе з Украіны. Добры (у сэнсе, прыбытковы) бізнес. Пастаяннае спаборніцтва ідзе: міліцыя нешта прыдумляе, каб злавіць пастаўшчыкоў, і тыя ў адказе не застаюцца.

***

На наркотыкі трэба грошы: шклянка макавай саломкі каштуе 6 тысяч рублёў. А хто наркамана возьме на працу? Адразу выносяцца рэчы са сваёй кватэры, хаты бацькоў. А потым застаецца адно – красці.

***

– Я іх раней ненавідзеў, – завяршае размову Васіль Шух. – Потым пачаў разумець, што гэта хворыя людзі. Яны зрабілі памылку, яны праклінаюць той дзень, калі паспрабавалі наркотыкі. Але назад дарогі ўжо няма... Яны ўжо не жыльцы.

***

Па-рознаму змагаюцца з наркаманіяй у Светлагорску. Вялі і вядуць прафілактычную работу сярод моладзі, пачынаючы нават з малодшых класаў. У горадзе шмат, вельмі шмат рэкламы супраць наркаманіі ды СНІДу. Хтосьці з жыхароў крыўдаваў: «У Мінск прыедзеш, там прыгожая рэклама. А ў нас толькі наркаманы глядзяць з плакатаў». У вёсцы Астроўчыцы ёсць рэабілітацыйны цэнтр для наркаманаў. Апякуюцца ім немцы. Хацелася б, каб яго пацыенты былі тым рэдкім выключэннем, у каго з іголкі атрымліваецца «злезці». І не вярнуцца на яе.

## СНІД

Ён прыйшоў у горад летам 1996 года. З Навінак, дзе лячыліся наркаманы, паведамілі, што ў 12 светлагорскіх выяўленая ВІЧ-інфекцыя. У горадзе пачалі абследаваць наркаманаў (месцы, дзе яны збіраюцца, вядомыя). Правераць 30, а ў 20-ці – ВІЧ, з яшчэ паўсотні – у 40. За паўгода каля васьмі соцень інфіцыраваных выявілі. У горадзе – шок.

***

Урач-інфекцыяніст Светлагорскай бальніцы **Дзмітрый Падута** каардынуе дзейнасць службаў па СНІДу. У руках у яго спіс ВІЧ-інфіцыраваных. На 23 старонках. Усяго 1651 чалавек (каля трэці з іх – жанчыны).

– І сёння яшчэ 9 прозвішчаў дадалося, – гаворыць.

***

Апошнім часам колькасць новых ВІЧ-інфіцыраваных у Светлагорску з года ў год змяншалася, але ў 2001 годзе зноў пачала павялічвацца – 113 чалавек дадалося. Пакрысе хвароба выходзіць з асяроддзя наркаманаў. Прыходзяць на абследаванне «чыстыя» ад наркотыкаў цяжарныя жанчыны – а ў іх знаходзяць ВІЧ.

– Пакуль людзі яшчэ не ўсвядомілі, што гэта ўжо не толькі хвароба наркаманаў, – гаворыць урач.– Яны баяцца нейкіх страшылак, што хтосьці можа абліць заражанай крывёй прадукты, а пра свае паводзіны не думаюць. Нармальная з'ява: адцягнуцца ў «кабаку», раніцай прачнуцца няведама з кім... Мы ж не наркаманы – не захварэем. А ўжо так не скажаш.

***

У невялічкім, завешаным антыснідаўскімі плакатамі кабінеце Дзмітрыя Падуты чалавек дазнаецца, што ён асуджаны паміраць. Ён павінен вырашыць, як жыць з хваробай, каму сказаць пра яе, каму – не.

– Што самае страшнае ў рабоце? –перапытвае урач.– Паведамляць людзям, што яны інфіцыраваныя, ужо прывык. Цяжка бывае выслухоўваць іх рэакцыю. Гавару маладой дзяўчыне, не наркаманцы, што ў яе ВІЧ. Яна паслухала, сказала «дзякуй» і ціхенька выйшла. Вось ад гэтага «дзякуй» хочацца біцца галавой аб сцenку. За што «дзякуй»? У чым яна вінаватая?

## «Абменнік»

У Светлагорску так называюць яшчэ і пункты па абмене шпрыцаў. У горадзе падобныя два. Адзін наведваем. З паўсотні наркаманаў штодня сюды заходзяць. Кіраўнік грамадскага аб'яднання «Бацькі за будучае дзяцей» **Уладзімір Рамanцоў** так тлумачыць неабходнасць пунтаў:

– Калі менш ВІЧ-інфіцыраваных будзе сярод наркаманаў, то менш і сярод нас.

****

Ёсць у «абменніку» свая кніга водгукаў. Адныя надпісы выведзеныя акуратна, літара ў літару, іншыя (і такіх больш) – скачуць па лісце. Хтосьці нават дапісаў: «Прабачце за почырк». А што пішуць... «Дзякуем за ўсё добрае», «Цяпер я ведаю, што нікога не заражу».

***

За гаспадыню тут хударлявая пенсіянерка **Вольга Аляксандраўна**. Калі працей – «Мама Чолі».

– Шмат хто баяўся сюды ісці працаваць, а я – не, – гаворыць. – Мяне і дагэтуль сяброўкі угаворваюць, каб сышла адсюль: «Дзе ты робіш! У сатанінскім месцы». Але ж гэта хворыя людзі, ім трэба дапамагчы. Многія з іх прыходзяць, плачуць, а нічога зрабіць не могуць. А многія ўжо не плачуць – скарыліся...

***

Здаецца, да ўсяго ўжо прывыкла Вольга Аляксандраўна. І што прыходзяць наведвальнік, а за ім крывавы след цягнецца – гніе. І што табе могуць даверліва прызнацца: «Я зараз пайду на справу» (красці, значыць). Не, усё ж яшчэ не да ўсяго:

– Прыходзяць дзяўчаткі: маладыя, прыгожыя, дагледжаныя. І вы – наркаманкі?

– Наркаманкі...

***

Гутарым, а ў пункт прыходзіць міліцыянер. З фотаздымкам. На ім – твар маладога мужчыны. Труп яго знайшлі на вуліцы – загінуў ад перадазіроўкі. Цікавяцца, можа кліент «абменніка».

***

Падвозім Вольгу Аляксандраўну да цэнтра (часам, гавораць, яе наркаманы праважаюць, каб ніхто не пакрыўдзіў). Гаворыць на развітанне:

– Дай Бог, каб такая бяда не прыйшла ў ваш горад...

І такое пажаданне чулі не толькі ад яе адной.

## Будучыня

У адной са школ сустракаемся са старшакласнікамі. Праблема наркаманіі, СНІДу для іх не нешта выдуманае, убачанае па тэлевізары – яны жывуць з ёй побач. Разумна пра гэта разважаюць, сур'ёзна, без жартаў.

***

Што прынеслі ў горад наркаманія і СНІД?

– Страх, падазрэнні, – адказваюць. – Бацькі баяліся на дыскатэку, пагуляць адпускаць.

У часы, калі пра ўсплёск ВІЧ-інфекцыі ў горадзе стала вядома ў краіне, нацярпеліся і дзеці. Хто ў летніку спецыяльна ў майцы хадзіў, каб усе бачылі, што вены «чыстыя». Каго, пачуўшы ў цягніку, што ён са Светлагорска, прасілі вены паказаць. Паказваў – а як інакш было даказаць, што ты не наркаман.

***

У канцы 90-х дзеці так пісалі пра лёс роднага горада: «Яго будучае прадвызначана: на мой погляд, ён вымра», «Хутка тут будуць суцэльныя могілкі». І так думаў 71% апытаных. Цяпер, здаецца, адносіны змяніліся.

– Горад у нас, як горад, – даводзяць. – Ніхто са шпрыцам за табой не бегае, на іголку сілай нікога не «садзяць». А прыгод на сваю галаву і ў Мінску, і дзе хочаш можна знайсці.

***

Прафілактычная работа дала свой плён. Ды і да чаго даводзіць «зелле», падлеткі могуць убачыць не толькі з ролікаў па мясцовым тэлебачанні – жывыя (і ўжо нежывыя) прыклады перад вачыма. Так што новых наркаманаў дадаецца няшмат. Фору Светлагорску ў іх прырosце далуць ужо іншыя гарады, прыкладам, Салігорск. А тут быць наркаманам ужо не модна.

– Ёсць заняткі і цікавейшыя, – гавораць старшакласнікі.

І гэта дае надзею.

**Алесь ВЫСОЦКІ, Мядзел.**

■ ГАРАДКІ

# Генадзь Сушко – пяціразовы чэмпіён Беларусі

**МАЛАДЗЕЧНА. Генадзь Сушко выйграў 9-ы чэмпіянат Беларусі ў закрытых памяшканнях. Першынства праходзіла ў канцы мінулага тыдня ў зале СШ №2.**

Для Генадзя гэта пятая перамога запар. Астатнія чатыры чэмпіянаты выйграў маладзечанец **Аляксандр Кулак**.

Спаборніцтвы доўжыліся ў 3 дні, удзельнічала каля 30 спартсменаў. Кожны гуляў 2 партыі па 15 фігур у дзень. У выніку гарадошнікам давялося разбіваць 90 фігур. Чэмпіёнам станавіўся той, хто затраціць на ўсе фігуры меншую колькасць спроб.

Пасля першага дня лідзіраваў **Анатоль Урбан** з Гродзенскай вобласці – 39 біт. 2-5 месцы дзялілі чатыры маладзечанцы. Усе на 30 фігур затрацілі 42 біты.

Выніковая тройка склалася пасля другога дня: Генадзь Сушко, Анатоль Урбан і **Аляксандр Філістовіч**. У выніку яны набралі 120, 122 і 124 біты адпаведна. Летась у гэтым жа памяшканні тройка прызёраў паказала вынікі 119, 128 і 132 біты. Сёлета барацьба за чэмпіёнства была больш шчыльная. Генадзь Сушко за перамогу атрымаў ад міністэрства спорту і турызму 200 тысяч рублёў. Тры ўдзельнікі ўпершыню выканалі нарматыў майстра спорту. Гэта маладыя маладзечанцы **Сяргей Сергіевіч**, **Уладзімір Эгліс** і **Антон Кулак**.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Пяціразовы чэмпіён Беларусі па гарадках у закрытых памяшканнях Генадзь Сушко.**

1-га лютага ў рамках урачыстага адкрыцця гарадошнай пляцоўкі праходзіў бліцтурнір з удзелам ганаровых гасцей чэмпіянату. Ім прапанавалася з дзвюх спроб выбіць найбольшую колькасць гарадкоў. На пляцоўцы іх было 10.

Удзельнічалі дырэктар комплекснай ДЮСШ прафсаюзаў **Віктар Мазнёў**, дырэктар маладзечанскіх электрасетак **Сяргей Сарычаў**, дырэктар СШ №2 **Уладзімір Шпетны**, дырэктар ЗАТ "Кэмпі" **Барыс Лабко**, загадчык гарадскога аддзела па фізічнай культуры, спорце і турызме **Мікалай Шрымф**, дырэктар фірмы "Тракт" **Міхаіл Войтка**, былы старшыня гарвыканкома, а цяпер дырэктар дэпартамента будаўніцтва і гарадскога забеспячэння "Пріорбанка" **Станіслаў Татарыновіч**.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**На адкрыцці 9-га чэмпіянату Беларусі па гарадках давялося ўзяцца за біту і былому старшыні Маладзечанскага гарвыканкома Станіславу Татарыновічу.**

Першыя чацвёра выйшлі ў паўфінал. Пасля другога раунда вызначыліся пары фіналістаў. У матчы за 3-е месца Шпетны выйграў у Лабко з лікам 4:2, а ў фінале Мазнёў перамог галоўнага спонсара (бо менавіта электрасеткі добраўпарадкавалі спартзалу) Сяргея Сарычава. Але свой прыз за 1-е месца аддаў сапернiку. Тройка прызёраў атрымала сувеніры ад шклозавода "Нёман".

Не за гарамі наступныя гарадошныя турніры. 23-27 лютага пройдзе гарадское адкрытае юнацкае першынство. 8-10 сакавіка ў Маладзечне пройдзе турнір памяці **Сямёна Адзінцова**, дзе будуць удзельнічаць усе мацнейшыя. А праз два дні нацыянальная зборная ў складзе мінчаніна **Ігара Лімберга**, Анатоля Урбана і чацвёркі маладзечанцаў павінная стартаваць на 11-м міжнародным турніры памяці чэмпіёна СССР **Віктара Рабцава**, што пройдзе ў Ніжнім Ноўгарадзе. Гэтае спаборніцтва будзе адначасова першым этапам розыгрышу Кубка свету.

Другі этап пройдзе 26-28 красавіка ў Маладзечне. Гэта будзе міжнародны турнір памяці ахвяраў на Чарнобыльскай АЭС. 40 лепшых гарадошнікаў збяруцца ў расійскім горадзе Чарапавец і ў канцы ліпеня разыграюць Кубак свету.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ПАРТРЭТ

# Віталь Сцепановіч: «Хачу паехаць за мяжу»

**У пачатку года галкіпер ФК "Маладзечна-2000" Віталь Сцепановіч пабываў на праглядзе ў чэшскім клубе другой лігі "Вікторыя" (Пльзень).**

**– Як прайшла паездка?**

– У Чэхіі я быў з 5 па 15 студзеня. "Вікторыя" яшчэ летась гуляла ў вышэйшым чэшскім дывізіёне. Цяпер пасля першага круга ў другой лізе яна займае 10 месца з 16 каманд. Жыў я на базе, недалёка за горадам. Згуляў у кантрольным матчы супраць клуба вышэйшай лігі. Хаця прайгралі 0:1, але сказалі, што я паказаў неблагую гульню.

**- І што сказалі на развітанне?**

- Яны жадаюць запрасіць мяне яшчэ. 10 дзён – гэта невялікі тэрмін для таго, каб рабіць сур'ёзныя высновы наконт прафесійных здольнасцяў гульца. Я пабыў так мала ў камандзе таму, што ў рамках падрыхтоўкі каманды потым запланаваны лыжны збор. А праглядаць мяне на лыжах сэнсу няма – я ж не біятланіст. Таму дамовіліся падтрымліваць сувязі.

**– Колькі там варатароў?**

– Два.

**– На якой мове размаўляў?**

– На англійскай. Я больш-менш ёй валодаю. Хаця чэхі не зусім добра разумеюць англійскую мову. У камандзе легіянераў няма, таму, зразумела, футбалісты і трэнеры гавораць на чэшскай мове. Таксама могуць гаварыць і на нямецкай – недалёка Германія.

**– Ты бачыш перспектыву пераходу?**

– Ехаць на другі круг сэнсу няма. А трымаецца, і там не пагуляю, і тут. Больш разумна будзе правесці перадсезонную падрыхтоўку тут. А ў Чэхію, магчыма, паеду летам, калі там распачнецца падрыхтоўка да новага чэмпіянату.

**– Для цябе, як футбаліста, дзе лепш гуляць: у другой чэшскай лізе ці вышэйшай беларускай?**

– У мяне вялікае жаданне паехаць за мяжу.

**– Чаму?**

– Там іншае стаўленне да футбола – няма ніякіх праблем з экіпіроўкай, выездамі, харчаваннем. Эканамічнае становішча ў Чэхіі дазваляе камандам мець салідных спонсараў. "Вікторыя" праводзіць свае гульні на выдатным стадыёне. Акрамя гэтага, у клуба ёсць тры трэніровачныя палі і дзве спартыўныя залы. Ды і ўзровень жыцця ў Чэхіі зусім іншы.

**– А як жа мары? Няўжо ў дзяцінстве не хацеў трапіць на чэмпіянат свету?**

– Я максіміліст па жыцці, і ў мяне была такая мара. Але калі рэальна паглядзець, пры такім падборы варатароў, якія ёсць у вышэйшай лізе, мне ў зборную Беларусі не трапіць – я ж талентам не адораны. Ды і зборная Беларусі можа згуляць у фінальнай частцы чэмпіянату свету толькі тады, калі гэты чэмпіянат будзе праходзіць у Беларусі.

У мяне ёсць мара нешта выйграць з камандай, каб пакінуць нейкі след у гісторыі. Гэта не для іншых, а для сябе, каб даказаць, што нешта ўмею ў футболе.

**– Ці ёсць у цябе нейкае футбольнае дасягненне?**

– Пакуль няма.

**– Расійскі варатар Сяргей Аўчыннікаў у адным з інтэрв'ю сказаў, што калі ў камандзе два раўнацэнныя варатары, то ім гэта карысці не прынясе. Асабліва другому варатару. Бо ён можа патраціць шмат нервовай энергіі, каб трапіць у склад, замест таго, каб гуляць. А потым адна памылка – і зноў у запас.**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Галкіпер ФК «Маладзечна-2000» Віталь Сцепановіч.**

– Я лічу, што для каманды здорава, калі ёсць два роўныя варатары. Бо калі з адным нешта здарыцца – траўма або дыскваліфікацыя, - на змену выйдзе другі. Сезон доўгі. А для мяне больш цісне на псіхіку, калі з-за тваёй памылкі прайграе каманда. Калі заходзіш пасля гульні ў раздзявальню і бачыш вочы гульцоў. Усе пашуць на трэніроўках, а ты памылкай падводзіш каманду, трэнераў. Вось гэта перажыць цяжка.

**– Калі перайсці да ацэнкі мінулага сезону. Па статыстыцы, вы з Аляксеем Рубацкім два роўныя варатары. Чаму ён гуляў у два разы больш за цябе?**

– Гэта заканамерна. Я ў камандзе быў чалавек новы. А Лёшку я ведаю даўно: разам гулялі ў "Дынама-Юні". Лічу, што гэта таленавіты варатар, і ён можа загуляць на добрым узроўні.

**– Летась ты вызначыўся яшчэ і тым, што ў гульні з «Шахцёрам» адбіў два пенальці. Былі раней такія поспехі?**

– Помню гульню ў 1/16 фіналу Кубка, калі "Дынама-Юні" гуляў супраць "Нафтана" са **Стрыпейкісам** у складзе. Я і ў асноўны час добра згуляў, і адбіў два пасляматчавых пенальці. Мы выйшлі ў адну восьмую.

**– Леташняе 10 месца "Маладзечна-2000" – заканамернасць?**

– Так. Занялі сваё месца. Вышэй галавы не скокнеш. Многія з нас да гэтага сезона не гулялі ў вышэйшай лізе. А ў футболе дробязяў не бывае.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Табло

■ ВАЛЕЙБОЛ

МАЛАДЗЕЧНА. Тут праходзілі занальныя абласныя гульні сярод юнакоў у рамках Алімпійскіх дзён моладзі. Каманда Мядзельскага раёна заняла другое месца і выйшла ў паўфінал спаборніцтваў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ «РГ»-СТАТЫСТЫКА

У сезоне 2001 года ФК "Смаргонь" атрымаў 5 перамог з буйным лікам. У гэтым чэмпіянаце хет-трыкі зрабілі Уладзіслаў Каўрыга і Андрэй Шаблінскі на палях сапернікаў. Было 12 11-метровых штрафных удараў у вароты сапернікаў, з іх 7 у Смаргоні і 5 у гасцях. Рэалізавана 8 пенальці – па 4 дома і ў гасцях. Алег Чарнуха рэалізаваў 4 пенальці (з 5), па 2 галы з пенальці забілі Андрэй Селіванаў (з 3) і Андрэй Пагоцкі (з 3). Сапернікі білі ў вароты "Смаргоні" 2 пенальці, рэалізаваны 1 удар.

За 4 сезоны ФК "Смаргонь" правёў 114 матчаў, у якіх атрымала 55 перамог, 25 нічыіх і пацярпела 34 паражэнні, розніца мячоў – 163:123. Пры гэтым былі 3 тэхнічныя перамогі на сапернікамі з-за іх няявак. Каманда атрымлівала па 3 ачкі і дадавалася па 3 мячы, якія не маюць аўтараў. За 4 сезоны ў складзе ФК "Смаргонь" сыгралі 58 гульцоў, з іх 5 варатароў. Шасцёра выступілі ва ўсіх чатырох сезонах каманды. Больш за ўсё матчаў згулялі Віталь Відук – 94, Уладзіслаў Дукса – 91, Сяргей Карабінскі – 89.

Галы ў вароты сапернікаў забівалі 24 гульцы. Лепшы бамбардзір – Віталь Відук – 22 галы. Андрэй Селіванаў – 16 галоў, Дзмітрый Дзігілевіч – 14 галоў. Яны апярэдзілі лепшага бамбардзіра мінулых гадоў Дзмітрыя Максіменку – 14 галоў. Да гэтых паказчыкаў набліжаюцца Вячаслаў Шпакоўскі – 13 галоў, Андрэй Шаблінскі – 11 галоў.

У 1998 і 1999 гадах лепшым гульцом ФК "Смаргоні" станавіўся Віталь Відук, у 2000 годзе балельшчыкі назвалі лепшым Андрэя Селіванава, а ў 2001 годзе перамог любімец публікі Андрэй Шаблінскі, якога балельшчыкі называюць "Бэтмен".

**Мікіта ЛІСТАПАД.**

■ АЛІМПІЯДА

Восьмага лютага распачнуцца XIX зімовыя Алімпійскія Гульні. У дзевяці відах спорту Беларусь прадставіць 61 спартсмен. Чацвёра з іх – расіяне па паходжанні – цяпер маюць пэўныя адносіны да нашага рэгіёна, а, дакладней, да Маладзечна. Славутыя біятланісты-мужчыны трохразовы чэмпіён свету (двойчы ў каманднай гонцы, адзін раз у эстафеце) **Вадзім Сашурын** і чэмпіён свету ў эстафеце, бронзавы прызёр Алімпіяды-98 у гонцы на 20 кіламетраў **Аляксей Айдараў** "служаць" у палку, які кватаруецца ў тутэйшай вайсковай часцы. Жанчыны-біятланісткі **Вольга Назарава** (лідэр зборнай) і **Людміла Лысенка** нават прапісаны ў Маладзечне і маюць у горадзе кватэры.

З ураджэнцаў нашага рэгіёна найлепшы шанс трапіць на Гульні мела лыжніца **Вольга Васілёнак**, якая нарадзілася і трэніравалася на Мядзелшчыне (трэнер **Уладзімір Жоўнар**). У ЗША едуць сямёра лыжніц, а Вольга, на жаль, пакуль першая запасная, і застаецца дома. Дарэчы, па камплектаванні складу лыжніц узнікла неадназначная сітуацыя. Па-першае, усяго паўгода назад беларускае грамадзянства атрымалі чацвёра расіянак, стаўшы лідэрамі нашай зборнай. Па-другое, неяк нядаўна былі вызначаныя правілы адбору спартсменак у зборную. Гэтыя правілы базіраваліся на выніках міжнародных стартаў, і, натуральна, перавагу атрымалі тыя, хто ў іх удзельнічаў. Нашай зямлячцы такой магчымасці не далі, бо апошнім часам яна і не паказвала добрых вынікаў. Аднак у студзені на чэмпіянаце краіны першынствавала на некалькіх дыстанцыях, перамогшы тых спартсменак, якія ў ЗША паедуць. Але ўжо было позна.

Напачатку сакавіка на тых жа пляцоўках і трасах Солт-Лэйк-Сіці прымуць старт паралімпійцы. Чацвёра беларусаў будуць змагацца ў лыжным спорце. З іх двое маладзечанцаў **Віктар Жукоўскі** і **Васіль Шапцібой**, чыя падрыхтоўка падышла да апошняй стадыі. З 2-га па 20-га лютага яны будуць на зборах у Балгарыі, а 28-га ўжо выляцяць у ЗША. Нашы землякі прымуць удзел ва ўсіх трох гонках. 10-га сакавіка на 5 кіламетраў класічным стылем, 12-га – 10 км свабодным стылем, 16-га – 20 км свабодным. Вяртанне запланаванае на 18-га.

■ МІЖСЕЗОННЕ

"Маладзечна-2000" пакуль гуляць не збіраецца, актыўна трэніруецца, закладваючы базу функцыянальнай падрыхтоўкі на ўвесь сезон.

Пра паездку **Віталя Сцепановіча** ў Чэхію можна даведацца з матэрыяла, што стаіць злева. **Аляксандр Багайчук** пераходзіць ва ўкраінскі "Нафтавік", а **Андрэй Турчыновіч** таксама, на жаль, пакінуў клуб. Успомнім, тэрміны аднагадовых кантрактаў апошніх двух скончыліся.

Як будзе выглядаць наша атака без Турчыновіча, сказаць цяжка. Напрыканцы леташняга сезона Андрэй не гуляў з-за траўмы, і тады пачалі забіваць і **Віталь Макрыцкі**, і **Сяргей Сідарэнка**. Няхай у іх усё атрымаецца сёлета. Дарэчы, аўтар гола ў вароты "Лакаматыва" **Аляксандр Рапецкі** (1978) – нападаючы, раней выступаў за "Пінск-900" (Д3). Ён знаходзіцца на праглядзе. Трапіў у аўтааварыю **Аляксей Антановіч**. Добра, што атрыманыя пашкоджанні не занадта сур'ёзныя.

Ёсць яшчэ навіны з рэспубліканскай федэрацыі. Па тых жа трансферных правілах футбаліст можа памяняць сваю каманду толькі аднойчы за год, а ўстанаўліваюцца для гэтага два перыяды. У Беларусі – падчас міжсезоння і паміж кругамі чэмпіянату. Значыць, скасуецца льгота для ўдзельнікаў еўракубкаў. Яны не змогуць дазаяўляць гульцоў па ходзе сезона.

Многім функцыянерам і спецыялістам не спадабалася, што ў вышэйшай лізе было 14 каманд. З чэмпіянату-2003 іх зноў будзе 16. Сёлета вышэйшую і першую лігу пакіне толькі адна каманда, а папоўняць па тры.

І апошняе, з катэгорыі "смешна, калі б не было так сумна". У маладзечанскім клубе спачатку тыдня адключылі за няўплату тэлефоны. Вось такі "прафесійны" футбол у горадзе.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

# ВІНШАВАНКІ

**Здуарду Альбертавічу Мілеру** з 60-годдзем.

Дарагі юбіляр, прымі нашы шчырыя віншаванні! Моцнага табе здароўя, бадзёрасці, дабрабыту, добрага настрою.

Ад шчырага сэрца
ў дзень юбілею
Жадаем радасці,
светлай надзеі.
Шчасця табе ў будні і святы,
Хай добрыя весткі
прыходзяць у хату,
Хай будуць з табою здароўе і сіла,
Жыццё няхай
будзе добрым, шчаслівым.
*Швагеркі Люба і Лена,*
*сем'і Мусашвілі,*
*Засухіных, Харытонавых.*

З 18-годдзем!
**Таццяне Капілец**



Дарагая Танюшка, ад усёй душы віншуем цябе з днём нараджэння!
Будь самой веселой
и самой счастливой,
Простой, обаятельной, неповторимой.
Пусть беды уходят с дороги твоей,
Пусть будет побольше
хороших друзей.
Пусть будет все то,
что ты хочешь сама,
Любви тебе, веры, надежды, добра!
*Сястра Оля*
*і яе сям'я.*

**Алена**, віншуем з днём нараджэння! Жадаем здароўя, шчасця, даўгалецця і працвітання! *Сям'я Рудзянковых і Чарнель.*

**Аляксандра Шалдыбіна** віншуем з 35-годдзем! Жадаем моцнага здароўя, радасці, поспехаў, даўгалецця. *Суседзі Лена, Андрэй, Таня і Люба.*

Дарагую ўнучачку **Надзюшку Саўчыц** віншуем з днём нараджэння! Жадаем поспехаў у вучобе, кахання, здзяйснення мараў. *Дзядуля і бабуля.*

**Надзейку Саўчыц** з Вілейкі віншуем з 17-годдзем! Няхай кожны дзень прыносіць табе радасць і шчасце. *Мама і тата.*

Віншуем з юбілеем **Андрэя Вікенцьевіча Рамановіча**! Жадаем здароўя, шчасця, сямейнага дабрабыту. *Хросныя Лена, Максім.*

Віншуем з днём нараджэння сяброўку **Святлану Іванаўну Івашкевіч**! Шчасця, здароўя, сямейнага дабрабыту, кахання, радасці. *Нэла.*

**Андрэй Юда**! Віншуем з днём нараджэння! Жадаем здароўя, удачы, цяпла, каб беды-нягоды згарэлі датла. *Родныя.*

**Ганну Антонаўну Міцько** віншуем з днём нараджэння! Жадаем шчасця, здароўя, даўгалецця і душэўнага спакою! *Сяброўка сям'і Таня і сын Саша.*

Віншуем **Вольгу Янцэвіч** з днём нараджэння, з 14-годдзем! Шчасця, здароўя, радасці. *Света, Дзіма, мама, тата.*

**Людміла Алегаўна Панарад**, віншую з юбілеем! Жадаю здароўя, шчасця і ўсяго найлепшага ў жыцці. *Аднакласніца Валя Драгун і яе сям'я.*

Дарагая сястрычка **Людміла Антонаўна Прушык**, віншую з днём нараджэння! Жадаю здароўя, шчасця, весялосці. *Валя Драгун і яе сям'я.*

Віншуем **Алачку Валынец** з днём нараджэння! Жадаем моцнага здароўя, шчасця, сямейнага дабрабыту, удачы. *Сям'я Шафігуліных.*

Віншуем любімую сястрычку **Святлану Гарбузаву** з днём нараджэння! Жадаем моцнага здароўя, шчасця, удачы. *Таццяна, мама.*

Пробашча **Пятра Пятрагу** з днём нараджэння! Здароўя і няхай беражэ Вас Бог. *Вернікі.*



**А. У. Елізавеценку, А. Ф. Сафараву, М. М. Кур'яновіч, А. С. Ярмак**. Дарагія педагогі, з днём Валянціна! *Група №17.*

**Р. М. Мураўскай, А. М. Кандрацені, А. С. Зубрыцкай**. Дзяўчаты, з днём Валянціна! Здароўя, шчасця, кахання. *Рэгіна.*

З днём Валянціна **Галю Сікорскую, Мішу, Зою Пішчаку, Катажыну, маму**! Здароўя, шчасця, удачы. *Рэгіна.*

Віншую **Алёну і Ігара Ляхаў** з днём Валянціна і гадаўшчынай вяселля! Здароўя, шчасця, кахання. *Рэгіна.*

**Алёне Раманінай, Юлі Кульчык, Наташы Вінаградавай, Свеце Тарыме, Аліне Жалубоўскай**. Дзяўчаткі, з днём Валянціна! *Рэгіна.*

Віншую **Ніну і Лёню Грыневічаў** з днём Валянціна! Кахання, шчасця, удачы ў рабоце. Я памятаю пра вас! *Рэгіна.*

Віншую з днём Валянціна **Алену Нікадзімаўну і Паўла Фёдаравіча Савіцкіх**! Шчасця, здароўя. *Суседка Рэгіна.*

**У. Кісель, В. Малафей, С. Гудзебская, М. Сіляўка, А. Космач, Наташа, Леначка, Дзіма Маскалевічы**, з днём Валянціна! Кахання, удачы! *Рэгіна.*

### Звярніце ўвагу

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету! Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

## Купон 6

**да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы».**
**Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў.**
**Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

ТЭКСТ

Рэгіянальная газета

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

■ **14 ЛЮТАГА – ДЗЕНЬ СВЯТОГА ВАЛЕНЦІНА**

# Першы пацалунак



**Да свята закаханых засталося 6 дзён.**
Фота IREX/ProMedia.

Урокі першай змены скончыліся. Са школы выйшлі ўсе разам шумным натоўпам. І раптам:

– А-а-а! Ой, ой, ой! – **Ірына** ўскрыкнула і спалохана замітусілася.

– Што з табой? Што ты крычыш на ўсю акругу? – спытаў у яе **Саша Алёшын**.

– Ды нехта вялікі поўзае па спіне!

– Скінь паліто!

Яна скінула, хлопец узяў яго, страсануў – з-пад падкладкі вывалілася... мыш! Яна спрытна юркнула ў сумёт. Раздаўся агульны рогат. Ірынка супакоілася і засмяялася таксама. Апранула паліто і бягом дадому.

А на другі дзень на ўроку дзяўчыне захацелася паглядзець на Сашу. Выратавальнік адказаў ёй закаханым позіркам. Ім было па 14–15 год. Ірына добра вучылася і сярод дзяўчат у класе лічылася самай прыгожай і аўтарытэтнай. А Саша таксама добра вучыўся і быў высокі, цемнавалосы. Але на адным воку насіў чорную павязку, таму што калі ён вучыўся яшчэ ў другім класе, яму ў вока з рагаткі кампеньчыкам трапіў нейкі хуліган. Урачы вока не ўратавалі.

Ірына паважала Сашу за стрыманасць характару і за здольнасць да вучобы. А цяпер, калі ён стаў юнаком, ён быў яшчэ і прыгожы.

Урокі скончыліся на сёння. Ірына ўжо на калідоры атрымала па спіне ўдар важкім партфелем. Ледзь не плачучы ад болю і крыўды, азірнулася. Гэта быў ён. Яе ўдарыў Саша.

– За што? Што я яму кепскага зрабіла?

– Ні за што, – ёй патлумачыла **Шурка**. – Ён проста даў зразумець, што хоча хадзіць з табой. Быць тваім дружком.

"Дазвольце праводзіць і пагаварыць", – была такая просьба ў яго запісцы на другім уроку.

"Што за недарэчны стыль – на "вы"!" – не разумела Ірка. Адказала згодай. У гардэробе ён дапамог ёй апрануць паліто. І разам выйшлі. Сэрца замірала: гэта ж першы ў жыцці раз. Ён таксама хваляваўся, але выгляду не паказваў. Зрабіў прапанову:

– Давайце сустракацца з вамі! ("Ну, зусім, як рыцар Даме сэрца")

Сказала проста:

– Што ж, давай.

Ён дадаў:

– Хачу пагуляць да прызыву ў армію.

І ўсё. Яна дайшла да свайго дома. Яму крыху далей.

А на другі дзень на перапынку ў класе здарылася бойка. Схапіліся **Валянцін** і Саша. З-за парванай струны на домры Валянціна. Гэты навічок з апошняй парты сарваў чорную павязку з хворага вока Сашы і агаліў пустую крывава-чырвоную вачніцу. Саша спалохаўся, што бачыла Ірына яго калецтва, збялеў і адскочыў да акна. Званок скончыў гэтую сцэну. Так, Іра бачыла і ніякай агіды не адчула. Але Саша аддаліўся ад дзяўчыны зусім.

Валянцін настойліва пачаў дамагацца ўвагі Ірыны. Калі яна рашуча яго адвергла і сказала, што пакахае толькі Сашу, ён прапанаваў ёй сяброўства. Утраіх: Ірына, Шура (сяброўка і суседка Іры па парце) і ён, Валянцін. Ірына згадзілася. Гэта было цікава ім усім. Па-першае, бібліятэка сям'і Валянціна. Серыя "Таямніцы венцаносцаў" А. Дзюма, другое – расказы Валянціна пра турыстычныя паходы па гарах Урала. Валянцін абудзіў у ёй цікавасць да матэрыялістычнай філасофіі XVIII стагоддзя. Шуры яе сябры дапамагалі па матэматыцы і рускай мове. Ну, а Валянцін аддаваў перавагу сяброўству з дзяўчатамі, таму што ў класе ён не бачыў разумных і цікаўных хлопцаў.

Шура хутка паехала ў санаторый, а лета яшчэ толькі пачыналася. Вельмі асцярожна хлопец пачаў прывучаць да сябе Ірыну. Яны блукалі па лясных сцяжынках, траплялі і ў дождж, і ў навальніцу. Здзіўляліся ўзору павуціння, нацягнутаму між хваінак павучком і ўпрыгожанаму крэпелькамі расы. І позна ноччу адсочвалі Млечны Шлях. Іры яе маці сказала:

– З гэтым хлопцам я цябе адпушчу хоць калі і хоць куды.

Валянцін быў бездакорны як сябар. Ён ні на рацэ, ні ў лесе не дазваляў сабе ніякіх вольнасцяў. Ён толькі пачаў словамі звяртаць яе ўвагу на сваю стрыманасць:

– Я ўвесь дрыжу, але не ад холаду. Ніколі не нашу пальчатак, а рукі гараць! – і грэў у далонях яе рукі.

Але яна... не разумела. І вось аднойчы перад расстаннем у пад'ездзе Валянцін папрасіў дазволу яе пацалаваць. З цікаўнасці Іра дазволіла. Ён абняў і, цалуючы ў вусны, выклікаў у яе жаданне. Але спалохалася сама сябе і, рэзка адхіліўшыся, Ірына рукой зачапіла жалезныя начоўкі, што віселі на сцяне. Яны зваліліся, загрымелі. Дзяўчына кінулася бегчы ў сваю кватэру. І кавалер адзін застаўся растлумачвацца з гаспадыняй скінутай пасудзіны. Вось так і скончылася каханне.

Раніцой усе даведаліся, што пачалася вайна. Валянцін пайшоў на фронт па першым прызыве і не вярнуўся. Добраахвотна (па маладосці) на ваенны завод пайшла Ірына. І гэты першы страсны пацалунак адзіным застаўся.

**Галіна ЧАКАСІНА.**

## ЗНАЁМСТВЫ

Інвалід (32 гады, жыллём забяспечаны, спакойны, не п'ю і не куру) пазнаёміцца з дзяўчынай для стварэння сям'і. Маладзечна-7, МС 0487030.

Шукаю таго, каму патрэбныя мае пяшчота, цеплыня, шчырасць (42/175/85, светлыя валасы, вясёлая, добрая). 222310, Маладзечна-7, п/п МС 0240658.

Прывабная жанчына 57/170/80 пазнаёміцца для стварэння сям'і з сур'ёзным мужчынам. Маладзечна, галоўпаштамт, п/п МС 0560382.

Адзінокая жанчына, 48 год, жыве ва ўласным доме, чакае мужчыну без шк/зв. Маладзечна-6, п/д №158891.

Шукаю мужа надзейнага, вернага, працалюбівага, старэйшага за 45, вышэйшага за 170. 222410, Вілейка, п/п МС 0847878.

38/175, без шк/зв., ёсць машына. Пазнаёмлюся з адзінокай жанчынай да 40 год. Маладзечна-6, ОЕ 003234.

Стройная бландзінка, 47 год, чакае адзінокага мужчыну, забяспечанага жыллём, без шк/зв. Маладзечна-6, МС 0284227.

■ **ІМЯНІНЫ**

**8 лютага**
**Праваслаўныя**: Ананіі, Антона, Аркадзя, Івана, Іосіфа, Пятра, Сямёна, Фёдара.
**Каталіцкія**: Герасіма, Яна.

**9 лютага**
**Праваслаўныя**: Івана (Іаана Златавуста).
**Каталіцкія**: Апалоніі, Кірылы.

**10 лютага**
**Праваслаўныя**: Ісака, Яфрэма.
**Каталіцкія**: Схаластыкі, Яцка.

**11 лютага**
**Праваслаўныя**: Герасіма, Ігната, Лаўрэнція, Рамана, Селівана.
**Каталіцкія**: Бярнарды, Марыі, Лазара, Люцыяна.

**12 лютага**
**Праваслаўныя**: Васіля, Зіновія, Пятра, Рыгора, Феафана.
**Каталіцкія**: Яўлаліі, Люцыяна, Мадэста, Мялеція, Юльяна.

**13 лютага**
**Праваслаўныя**: Віктара, Івана, Кіра, Клаўдзія, Мікіты, Нікіфара.
**Каталіцкія**: Катарыны, Рыгора.

**14 лютага**
**Праваслаўныя**: Фядоцці, Пятра, Трыфана.
**Каталіцкія**: Валенты, Зянона, Кірылы, Методыя.

■ **КОНКУРСЫ**

## Зарабі білеты ў кіно



Прывітанне, шаноўныя! Сесія засталася ў мінулым, і мы працягваем наш конкурс.

Наступнае заданне. Каноплі пачалі збіраць больш за 3 тысячы год таму жыхары Цэнтральнай Азіі. Для чаго абарыгены выкарыстоўвалі каноплі?

Тэлефануйце 69667 у Маладзечне (апошні тэрмін 13 лютага, а 16-й гадзіне) і прыходзьце па запрашальны білет для 2 асоб на прагляд фільма ў маладзечанскім кінатэатры "Радзіма".

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ **ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ**



## Гамбургер па-беларуску

Тварог, 2 яйкі, соль расцерці, дадаць муку, замясіць крутое цеста, раскатаць у вялікі пласт таўшчынёй 1 см. Зверху на тарцы надзерці вараную бульбу, пакласці падсмажаныя на алеі цыбулю і моркву, парэзаную на кавалачкі кілбасу(можна фарш).

Закруціць у рулет. Нарэзаць яго кружочкамі ў 2–3 см таўшчынёй і абсмажыць з двух бакоў.

### Кінатэатр «Радзіма»



**Люты**
**Вялікая зала**

8–10 **"Перл-Харбар"**, ЗША, 2 серыі 14-10, 17-20, 20-30
11–17 **"Спакуса"**, ЗША, эратыч. трылер, акрамя асоб да 16 год 18-30, 21-00, 12 лютага – 21-00
**"Гадзіна пік-2"**, ЗША, камед. баявік, Джэкі Чан 16-00
12 лютага – **"Непрыкрытае каханне"**, Францыя, рэтра-паказ 18-30

**Для дзяцей**
10 – Самыя любімыя мульцікі 13-00

